## Карта № 173

# ДЗЯЎЧЫНА-ПАДЛЕТАК

№ 2887 «Я: н. недарослая дзяўчына: дзяўчо, дзяўчынка, дзяўчатка, дзеўчаня, дзяўчук...»

Тэмай карты з'яўляюцца назвы дзяўчыны-падлетка.

Лексема *дзяўчынёшка* картаграфуецца як *дзеўчынёха; дзяўчá, дзéўча* — як *дзяўчó*. Не картаграфуецца назвы *падрóстак, вырóстак, недарóстак, падлéтак,* таму што гэта агульныя назвы як для хлопца, так і для дзяўчыны.

*дзяўчы́нка* 1—5, 7—11, 15, 19, 20, 22—31, 37, 53, 54, 57—59, 62, 64, 65, 86, 87, 99, 100, 104, 105, 117—119, 123, 138, 141, 142, *дзеўчы́нка* 51, 52.

*дзéўчынка* 20, 35, 46, 52а, 56, 66, 94, 101, 111, 118, 122, 133. *дíвчынка* 92, 94а—98, 103, 108, 109, 132. *дывчынка* 90.

*дзяўчóнка* 12—14, 16, 32, 35, 36, 41, 42, 44, 73, 75, 77, 78, 80, 81, 124, 125, 128. *дзеўчóнка* 17.

*дзяўчу́к* 10, 11, 45, 47—49а, 55, 112, 142. *дзеўчу́к* 102, 135, 136. *девчу́к* 134. *дівчу́к* 94а. *дывчу́к* 90, 92, 96, 96а, 103, 132. *дэвчу́к* 108, 109.

*дзеўчынёха* 21. *дзіўчынёха* 6. *дзіўчынёшка* 10, 11. *дзіўчънёшка* 8а. *дзяўчынёшка* 8. *дзяўчó* 53, 54, 60, 71. *дзяўчá* 50, 54, 55. *дзеўчá* 62, 113. *дзéўча* 37.

*дзяўчаня́* 50. *дзеўчаня́* 137. *дзяўчанё* 53. дзеўчанё 31.

*дзéвачка* 18, 38, 72, 88, 116, 120, 121, 124, 127, 129, 130, 136, 142. *дзéвочка* 106, 107, 114. *дзéвычка* 39, 40, 42, 44, 74, 76, 84, 85, 89. *дéвочка* 134.

Адзінкавыя: *дзіўгá* 37. *дзіўчанёнка* 11. *дзіўчанётка* 9.

Адведзены: *падрóстак* 5, 6, 47, 77, 86, 111, 139, 141. *падрóстык* 79. *пудрóстак* 5. *подрóсток* 91, 96. *підрóстокь* 98. *пудрóсток* 90, 95, 108. *пóдрастак* 115. *падурóстак* 10. *вырóстак* 6. *вырóсток* 106, 108. *недарóстак* 66, 129. *недарóсток* 93, 135. *нідарóстык* 43. *ныдорóсток* 131. *нідарóслік* 35. *падлéтак* 53, 76. *падлéток* 135. *подлéток* 113. *підлы́ток* 96. *пудлéток* 137. *пу́длеток* 138. *пу́длыток* 95, 132.

## Карта № 174

# *НЯБÓЖ, НЯБÓГА* (пры звароце)

№ 2893 «У якім значэнні ўжываюцца словы нябож, нябога, нябожа: а) пры звароце да пляменнікаў, б) да дзяцей наогул, в) да небаракі (з адценнем ласкавасці)...»

Картаграфуюцца словы *нябóж, нябóга* пры звароце.

пры звароце да пляменнікаў 2, 7, 8, 18, 62, 66, 67, 69, 71, 72, 74, 99, 101, 104—108, 111—117, 120, 120а, 132, 134—137, 139, 141, 142.

пры звароце да небаракі 10, 11, 16, 17, 31, 35, 53, 56, 59, 73, 75, 76, 81, 83—85, 104, 107, 118, 119, 125, 129, 131, 134, 135, 140.

пры звароце да дзяцей 37, 38, 46, 60, 61, 64, 74, 76, 77, 94а, 97, 104, 105, 108, 109, 113, 114, 121, 127, 132, 137, 140, 142.

пры звароце да людзей (з адценнем ласкавасці) 27, 60, 65, 82, 93, 94, 95, 96, 98, 103, 113, 124, 133, 135.

словы *нябóж, нябóга* у прыказках: 26 *(ты, нябóжа, памажы́)*, 36 *(ня́бога яго ведаіць)*, 86 *(на табе, нябожа, што мне нягожа)*. 102 *(на тобе, небоже, што мне нігоже)*, 124 *(на табе, нябожа, што сабе негожа)*. 128 *(на табе, нябожа, што сабе нягожа)*.

Іншыя выпадкі: пры звароце да жонкі 20. сірата (без апекуна) 88. прозвішча чалавека 90. пры звароце да зяця 121. незвычайны чалавек 125. цёткін муж 126. пакойнік 138.

словы *нябóж, нябóга* не зафіксаваны: 1—6, 8а, 9, 12—15, 19, 21—25а, 28—30, 32—34, 39—45, 47—52а, 54, 55, 57, 58, 61, 63, 68, 70, 78—80, 89, 91, 97, 100, 110, 122, 123, 130, 133.

## Карта № 175

# ДЗЯДЗІНА

№ 2898 «Я. н. жонка роднага дзядзькі: цётка, дзядна, дзядзіна, дзядзінка...»

На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назвы жонкі роднага дзядзькі.

*дзя́дзіна* 1—12, 14—17, 19—25, 26—38, 40—44, 46, 48, 49а—54, 56—58, 60, 62—81, 104—106, 100—102, 104—106, 110—113, 115, 118, 119, 123, 128, 129. *дзя́дзена* 125. *дя́дына* 90, 91, 94а—96а, 103, 108, 109, 132. *дéдына* 92, 97, 98, 131.

*дзя́дзінка* 7, 77, 81, 84, 85, 87, 89, 128, 129.

*дзя́дна* 47, 49, 116, 120—121, 124, 126, 127, 137, 140—142. *дзя́нна* 107, 112—114, 117, 118, 122, 133, 135, 136, 138, 139. *дя́нна* 134.

*цётка* 4, 8а, 10, 11, 13, 15, 18, 21, 25а, 39—45, 52а, 55, 57, 59, 61, 66, 67, 69, 71, 75, 78, 79, 82, 93, 104, 111, 113, 115, 118, 119, 136. *ціéтка* 107. *тéтка* 131. *тётка* 94, 103. *тíтка* 95, 96, 98, 109. *тіютка* 90, 108. *тю́тка* 94а, 132.

## Карта № 176

# СТРЫЕЧНЫЯ БРАТЫ, СЁСТРЫ

№ 2900 «Я. н. дзеці родных братоў, родных сясцёр: стрэчныя, стрыечныя, першай стрэчы, дваюрадныя...»

Тэмай карты з'яўляецца агульная назва дваюрадных братоў і сясцёр. Паказаны лексічныя і акцэнталагічныя адрозненні. Назвы ў адзіночным і множным ліку картаграфуюцца адным і тым жа знакам. Лексема *двухрóдныя* картаграфуецца як *дваюрóдныя, з брат дзéці, збрадзéтныя, брáтнія дзéці* як *збрадзéці*. У назвах *стрыéчныя, стрэчныя, стрынэ́чны, стры́днія, пéршай стрэ́чы, пéрша стрынь, пéрвой строчэ́* і г. д. картаграфуюцца карані слоў. Ад картаграфавання адведзены канкрэтныя назвы братоў і сясцёр.

*дваю́радныя* 4, 9—11, 24, 26, 28, 36, 51, 53, 55, 57, 59—62, 64, 70, 71, 73, 77, 80, 81, 88, 93, 104, 118, 120—121, 125, 128—130. *дваю́рыдныя* 16, 29, 35, 40, 41, 75, 76, 78, 79, 83, 84, 87, 89. *дваюръдныя* 13, 41, 42. *дваюрудныя* 43. *двъюрадныя* 5. *дваюръднъі* 12. *дваюрудныі* 39. *дваюръднъй* 15. *дваюрдныя* 8. *двоірыᵉдные* 107. *двоюродны* 97, 131. *двоюрыдны* 95, 96. *двуюрудны* 91. *двуюруднэ* 98. *дваюрныя* 2, 10, 11. *дваюрныі* 1, 6. *дваюрнъі* 8а. *дваюраныя* 32, 65. *дваюранныя* 21, 27, 33, 37, 99, 115. *дваюрунныя* 38. *дваюръннъя* 34.

*дваюрóдныя* 7, 67, 117, 119, 127, 140. *дваюрóдные* 137. *дваюрóдны* 90. *дваярóдные* 136. *двайрóдныя* 139, 141, 142. *двайрóдные* 135. *двоюрóдные* 101, 114. *двоюрóдны* 94, 94а, 96а, 102, 103, 108, 109. *двоерóдныя* 111. *двоірóдные* 113. *двоіру́дныя* 132. *двуюрóдныя* 83. *двуйрóдные* 106. *двухрóдныя* 10, 11.

*стрыéчныя* 3, 4, 11, 18—20, 25а, 26, 31, 46, 57, 65, 67, 94. *стрыéшныя* 10. *стрэ́чныя* 24, 25, 47, 53, 54, 58, 59, 62, 67, 100, 104, 112. *стрéчныя* 6, 22, 23, 26, 27. *стрынэчны* 95, 103. *стрыдзэ́чны* 92. *стрэ́днія* 69, 105. *стрэдніе* 114, 137. *стрэ́дные* 135. *стры́днія* 133. *стрéнные* 138. *пéршай стрэчы* 19, 20, 52, 54, 56, 57, 59, 62, 63, 100, 104. *пéршай стрéчы* 27. *пéршай устрэчы* 67. *пéршуй стрэчы* 49. *пéршая стрэч* 25. *пéрша стрэч* 50. *першастрэчныя* 62. *у пéршай стрэчы* 23, 45, 48, 49а, 52а, 61, 66. *у пéршай страчы́* 106. *пéрвай стрэчы* 58. *пéрвай строчэ́* 107. *пéршы стрíнь* 108. *пéрша стрынь* 94а, 95. *першастрíнь* 109.

*збрадзéці* 25, 63. *з брат дзéці* 102. *збрадзéтныя* 10, 11. *брáтнія дзéці* 6, 66.

Адведзены: *брацéннікі* 14, 74, 82, 123. *брацéнікі* 30, 72, 85, 86. *брацíшкі* 17. *брáткі* 134. *сястру́шкі* 14, 17, 123. *сястру́хі* 30, 74. *сястру́хны* 34. 74. *пасёстры* 85, 86.

## Карта № 177

# КАРМІЦЬ ДЗІЦЯ ГРУДЗЬМІ

№ 2912 «Карміць грудзямі дзіця: сасіць, саіць... Карміла, сасіла, саіла...»

Пры картаграфаванні ўлічваліся толькі карані слоў і не ўлічваліся фанетычныя і граматычныя формы слова. Дзеянне *карміць* называецца словам або спалучэннем слоў.

Ад картаграфавання адведзены адказы, якія з'яўляюцца адпаведнікамі дзеяслову *есці*, а не *карміць*. Адным знакам картаграфуюцца *даць цыцкі (грудзі)*і *даць пассаць цыцкі (грудзі)*.

*карміць* 9, 23, 25а, 29 (нов.), 30—34, 37—39, 43, 45, 46, 53, 54, 59, 62, 63, 67—71, 73—75, 81—89, 100, 104, 112, 115, 118, 119, 121, 124—127, 129, 137. *корміць* 102, 114, 138, 140. *корміть* 134. *корміті* 94 (рэд.). *корміты* 97. *кормыты* 96а. *кормыць* 133. *корміць* 35, 57. *карміла* 8а, 57, 80, 116, 142. *корміла* 107. *кормыла* 131. *курмыла* 92. *пакорміць* 117. *карміць грўддзю* 26, 77—79, 86, 99, 111, 128. *карміць грудзьмі* 40—42, 61, 71, 86. *карміць грудзямі* 36, 44, 120, 136. *грудзямы карміла дзіця* 123. *грудзьмыма кормыты* 90. *карміла грўддзю* 84. *корміць грудзьмі* 2 (цяпер). *грудзьмі карміла* 51. *грудзьмі корміць* 71. *корміла грудзьмі* 102. *карміць сіськой* 16, 25. *карміць дзіця цыцкаю* 50. *карміла цыцкою* 69. *цыцкай карміла* 93. *корміць цыцкою* 101. *ціцькою кормыты* 90. *цыцкою кормыць* 133. *корміць грудзьмі* 106.

*сасіць* 1, 5, 7—15, 17, 21, 24, 29 (трад.), 35—26, 107, 120а, 122. *сосіць сіськой* 2 (даўней) 6, 24. *сасіла грудзёй, грудзямы* 4. *сасіла грудзьмі* 116. *сасіла, высасіла* 6. *пасасіць дзіця* 28.

*саіць* 3, 18—20, 22, 47—49а, 52—52а, *соіць, пасаіць* 58.

*даць цыцкі* 26. *цыцкі даць* 60, 65, 74. *даць цыцку* 56. *даваць ціцькі* 113. *даваць цыцкі* 134. *даваць цыцку* 135. *даты ціцькі* 91. *даваты ціцьки* 90. *даваты цыцкы* 94а, 95, 103, 108, 109. *даваті цыцку* 94. *цыцку даваты* 96, 96а, 132. *даватэ цэцкэ* 98. *давала цыцкы* 92. *трэ даць цыцкі* 106. *даць цыцкі* 120а. *даць грудзі* 46. *даць грудзей пассаць* 117. *дай дзіцяці пассаць цыцку* 27. *дай дзіцяці цыцкі пассаць* 64. *даць дзіцяці пассаць цыцкі* 105. *даць ссаць цыцку* 72. *даць дзіцяці пассаць* 110.

Адведзены: *дай дзіцёнак пассець* 30, 40, 105. *дзіця сцець сіську* 39. *ссаць* 55, *цыцку ссе* 56, 66. *дзіця ссала* (ссе) 66, 77, 80, 122. *цыцку ссаці* 93. *сцэ цыцку* 101. *пассе цыцку дзіця* 139. *ссе цыцку* 141.

## Карта № 178

# СТАЯЧАЯ КАЛЫСКА

№ 2916 «Я. н. калыска: а) якую падвешвалі да столі, б) якая стаяла на падлозе, в) якую бралі на поля...»

Карта складзена на матэрыяле адказаў на пытанне 2916 б). Карта на пункт а) гэтага ж пытання ў атлас не ўключана, т. я. яна ёсць у ДАБМ, карта № 247.

Рэалія, што картаграфуецца на данай карце, параўнальна новая. Аб гэтым сведчаць такія адказы: «не было», «даўней не было», ці ўказваецца, што спецыяльнай назвы няма (30, 47, 62, 92, 100). У асноўным назва гэтага тыпу калыскі такая ж, як і назва вісячай калыскі, якая з'яўляецца традыцыйнай для беларускай вёскі.

На карце ўлічаны толькі карані слоў. Фанетычныя і словаўтваральныя варыянты не ўлічваюцца. У некаторых адказах ёсць азначэнне, якое ўдакладняе (канкрэтызуе) тып рэаліі (*калыска качаная, стаячая* і інш.). На карце гэта не адзначана.

У наступных пунктах прыведзены заўвагі збіральнікаў і інфарматараў: 39 *калыска, люлька (аднолькава)*. 40 *нашы дзеці у такой не калыхаліся*. 44 а) *люлька*, б) *калыска* (але часта і без дыферэнцыяцыі). 46 *калыбель гавораць толькі, без розніцы*. 56 *пазней рабілі калыску і на палу качалі* 67. *калыска стаяла на падлозе, краватка цяпер.* 72 *катанка — каліс іх ня было.* 73 *калыска (цяпер, раней не было)*. 80 *не было стаячых, цяпер называюць калыска стаячая.* 95 *колыска, дырывяна колыска, колыска, шо стоіць, колысь іх ны було.* 120а *калыска (пазнейшая)*. 135 *калыска, калыска пахадзюшча.*

Як *катанка* картаграфуецца *качанка, качэль* і падобныя лексемы.

*калыска* 3, 8а, 15, 18, 21, 22, 25, 25а *(цяпер тока калыска)*, 26, 27, 33—44, 49а, 52а *(цяпер стаіць калыска)*, 56, 58—61, 63 (нов.), 65, 67, 68, 71, 73 *(цяпер)*, 75, 78, 82, 86 (рэдка), 88, 89, 99, 104, *(на падлозе на катках)*, 111, 112, 116, 118, 120а *(пазнейшая)*, 121, 124 *(не было раней — калыска стаячая)*, 126, 129, 135, 141. *колыска* 94а, 95, 101, 102, 106, 113, 114, 131, 136, 137. *калыска стаячая*, 23, 80, 142. *стаяча калыска* 139. *стаючая калыска* 81. *колыска стояча* 122. *калыска з нагамі* 127. *колыска стоячая* 140. *калыска качаная* 57, 64. *колыска дзераўянная* 134 (нов.). *колышка* 94 *(стояча)*, 117. *кулэска* 98 (часцей).

*люлька* 8а, 12, 14, 17, 28, 31, 32, 38 *(з'явілася нядаўна)*, 39, 41, 70, 75, 86, 87, *стаячая люлька* 128. *люлька стыячыя* 29. *люлька стаюшчая* 37.

*калыбель* 46. *калубель* 21 (трад.) 49, 50. *кальбель* 55. *кольбель* 133. *колубель* 107. *калубель на бягунах* 51.

*качалка* 9—11, 21, 76, 119 *(стаяла)*. *качанка* 24, 53 *(з дзерава робяць)*, 54, 68, 69, 97, 120. *качанніца* 37. *каталка* 110. *катанка* 72, 74, 111, 112 *(ложачак, які качаецца)*, 115. *качэль* 1, 5, 7. *качэля* 13, 105. *качэлька* 6, 8, 8а. *качэлькі* 2.

*ложак* 6. *ложачак* 6, 25, 66. *ложачык* 4. *лыжачок* 90. *ложачко* 45. *лыжычко* 96а. *ложачка* 48, 52. *ложачка дзяціная* 19. *ложачка на бігунох* 20. *ліжечок* 108. *ліжечок (в мэнэ нэ було)* 109.

*стаяк* 37. *стаячка* 75. *стаючка* 83, 84. *стаянка* 77, 118. *стойка* 85.

*зыбка* 79, 88.

*крыватка* 16. *краватка* 67. *кроватка* 91, 96 (нов.). *дзецкая крываць* 40.

*коічка* 132 *(нэ було кэдысь)*. *коечка* 103.

Адзінкавыя: *калыханка* 97. *нэнька, ненька* 98.

## Карта № 179

# КАЛЫСКА, ЯКУЮ БРАЛІ Ў ЧАС ЖНІВА

№ 2916 «Я. н. калыска... в) якую бралі на поле...»

Рэалія — калыска, што бралі на поле — старажытная. Таму ў некаторых адказах указваецца, што інфарматары яе не ведаюць, і прыводзіцца назва рэалій, якія выкарыстоўваюцца з гэтай жа мэтай: 1 *не называлі, начоўкі бралі, а то ў снапах паляжыць.* 2 (бралі) *калмашку, цігалі на калёсах.* 105 *на поля-каляска.*

На карце не ўлічаны словаўтваральныя і фанетычныя варыянты слоў. Як *люлька* картаграфуецца *люлька-лубянка*. Знак не пастаўлены там, дзе збіральнікі не атрымалі адказа.

*калыска* 18, 20, 21, 27, 30, 39, 40, 45, 49а, 52, 56, 57, 61—63, 70, 71, 76, 100, 115, 119, 120а, 121, 124—126, 135, 139. *колыска* 90, 97, 122, 132, 136, 137, 140. *калысачка* 75. *колысочка* 97, 103. *калышка* 72, 93, 120. *колышка* 91, 94, 117. *кулышка* 92. *калыска палатняная* 29, 53. *колыска полотняна* 96. *калыска парцяная* 52а. *портяная колыска* 95. *палняная калыска* 54. *калыска абшывана* 48. *лубяная калыска* 25а, 77.

*люлька* 8, 16, 17, 33, 34, 39, 41, 42, 44, 73, 75, 78, 80, 82, 86 (рэд.), 87—89, 123, 128, 129, 142. *люлька на пяльцах* 13. *люлька з тыгынамі* 29. *люлька с кастылямі (насілкамі)* 36. *люлька вісушчая* 37. *люлька-лубянка* 28.

*калыбель* 46, 67, 104. *калубель* 50, 60, 68, 69, 112. *кальбель* 55, 66, 110, 111, 113. *калубенька* 5. *калбель* 106. *калюбель* 76. *кулубель* 31, 74. *кольбель* 114, 133. *колібель* 108. *колібіль* 109. *колубель* 102, 107. *колюбіль* 94а. *колубілька* 103. *калубель на калках* 49а. *парцяная калубель* 58.

*лубянка* 6, 47, 59, 65, 81, 83, 84, 116, 118. *луб'янка* 127. *лубяначка* 124. *лубка* 101. *лупка* 99 *(на поле лупку бралі)*.

*таганы* 10, 11, 29. *тъганы* 15, 32. *тъган* 29.

*палатнянка* 141. *пылытнянка* 35, 82. *палатняначка* 25.

*нэнька* 96а, *нэнечка, ненечка* 99.

Адзінкавыя: *казюлі* 7. *зыпка (на бярозе падвешана)* 9. *валачынка* 14. *валакі* 26. *маячок* 20. *палявушка* 22. *тырмазы* 43. *калыхалкі* 79. *калыханка* 86. *пысахі* 85. *калаганы* 135.

Адведзены: *начоўкі бралі* 1. *калмашка* 2, 3. *каляска* 105. *каробка з дранє* 134.

## Карта № 180

# ЛАСКАВАЕ (пра дзіця)

№ 2928 «Дзіця лісліваe, лісаваe...»

На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя варыянты слоў. Граматычная форма слова не ўлічваецца.

У некаторых выпадках зроблены заўвагі аб тым, што словы *лісліваe* і *ла́скавае* маюць celosнае значэнне: *ла́скавы* — гэта пяшчотны, а *ліслівы* 'хітры'. Напрыклад, *ліслівы (до́брыцца, як лісіца), лісавая* 127, *(як лісіца)*.

Невыразнасць карты можа і тлумачыцца там, што ёсць адценні ў слоў, што картаграфуюцца, аднак збіральнікамі гэта не адзначана. У 49а п. *лідкава* можна матываваць адзнакай 'схільны да любасці ў вялікай ступені'. Прыведзеныя словы, а таксама *прылёпістае* (77), *прыхільнае* (52), *прыю́тнае* (108) і некаторыя іншыя маюць эмацыянальную афарбоўку.

Як *лісліваe* картаграфуецца *улісліваe, уле́слівае, леслівае.*

*ліслівая* 2, 10, 11, 25а—26, 29, 38, 58, 59, 63—65, 69, 75, 76, 81, 105, 120а, 129. *лісліваe* 31, 54, 46, 53, 54, 67, 70, 71, 73, 92, 104, 111, 112, 116. *лісліваё* 30, 60, 61, 99. *ліслі́въя* 39, 85. *ліслівa* 74, 140. *лісліваe* 101, 136, 137. *лісліво* 50, 55, 56, 62. *ліслівыя* 78, 79, 84, 89. *ліслівые* 86. *ліслівэ* 110, 138. *лыслывэ* 131. *ліслівы* 9 *(добрыцца, як лісіца). ле́слівая* 82. *ляслівое* 137. *улісліваяя* 3. *уле́слівая* 129.

*ільслівая* 12. *ільслівыя* 16. *ільслівае* 14. *ільслівы* 13.

*ліса́вая* 19 *(як ліска)*, 20, 24, 52а, 66, 68, 72, 118, 121, 124, 127 *(як лісіца). ліса́вае* 21, 28, 139, 141. *ліса́вое* 134. *лісаво́е* 117, 122. *лісаваё* 53. *ліса́въя* 15, 41. *ліса́выя* 42, 44, 84. *ліса́ва* 48, 142. *ліса́вэ* 107, 114, 133. *ліса́вый* 41, 42.

*ла́скавае* 80, 88, 125, 128. *ла́скавая* 18, 119. *ла́скавыя* 32. *ла́скывая* 33. *ла́скывыя* 40, 83. *ла́скавы* 8, 126. *ла́скавый* 1. *ла́скывый* 40. *ла́сковэе* 94, 109. *ла́сковэ* 96а, 106.

*ласка́вае* 22, 23, 45, 115, 120, 123. *ласка́вая* 2, 3, 52, 58, 65, 69, 77. *ласка́ваё* 37. *ласка́вэе* 113, 132. *ласка́ва* 95, 98. *ласка́во* 97. *ласка́вэ* 90, 91, 94а, 96, 103, 108.

*лізлівая* 23, 27. *лізлівае* 57 *(ла́сціцца)*.

*лізу́ха* 69.

*лёзная* 5, 6 *(перава́жна)*

Адзінкавыя: *ла́шчая, як лісіца* 6. *лісцівы* 35. *лісцівае* 102. *лісцівая* 129. *лідкава дзіця* 49а. *прыхільная* 52. *прывітлывэ* 108. *прыўле́сная* 129.

Адведзены: *лаго́дны* 4. *віскліваяя* 25. *хітрэнька* 74. *прылёпістая* 77. *покі́рнэ* 90. *мазёпа* 97. *прыю́тнэе* 108.

## Карта № 181

# ВЫЦЯЦЬ

№ 2931 «Дзіця выцяць, ударыць... Нагу выцяў, ударыў...»

На карце паказана пашырэнне слоў *уда́рыць (уды́рыць)* і *вы́цяць, сту́кнуць,* якія маюць значэнне 'нанесці ўдар каму-н..., па чым-н. або чым-н.', 'сцёбнуць, секануць', 'нанесці ўдар чым-н. гнуткім, тонкім'.

У адказах сустракаліся словы *набіць, пабіць, абабіць, вы́сеч, вы́сцібаць, апсе́ч,* якія маюць іншае значэнне — 'нанесці шмат удараў, збіць', а таксама лексемы тыпу *задзяліць, зба́хтітэ, атпру́дзіць; нада́ць* і інш., што маюць эмацыянальную афарбоўку і ўказваюць таксама на нанясенне шматразовых удараў. Усе гэтыя словы адведзены ад картаграфавання. Рэгулярныя фанетычныя асаблівасці і граматычныя формы слоў пры картаграфаванні не ўлічваліся.

*уда́рыць* 1, 5, 10, 11, 14, 15, 17, 21—24, 25 (суч.), 25а—27, 28 (нов.), 29, 30, 31, 33—38, 40—43, 49а, 54, 73—75, 78, 80—82, 100, 102, 111, 112, 115, 117, 118, 121, 123—129, 137, 138, 140, 141. *уда́ріць* 12, 13, 16, 32, 39, 44, 79, 83—89. *уда́ръць* 8а. *уда́рыті* 94. *уда́рыў* 3, 5, 17, 18, 29—31, 33, 35, 37, 38, 43, 54, 57, 73—76, 78, 80—82, 101 (ці папругай), 117, 118, 121, 127—129, 137, 139. *ударыў* 112. *ударі́ў* 12, 13, 16, 39, 79, 83, 86, 88, 89.

уды́рыць 45, 107, 114, 120а, 122, 126, 133. *уды́рыть* 134. *уды́рыў* 107, 114. *удырыла* 45. *уда́рыв* 103 (рэд.). *уды́рыв* 94а, 108, 109, 132. *уды́ріў* 134. *уды́рів* 113. *вдырыты* 109. *удэ́рыць* 19.

*вы́цяць* 18, 23, 25 (трад.). 27 (трад.), 49, 52а—56, 58—61, 63—67, 69 (даўн.), 71, 72, 99, 100, 101 (рукой), 104, 105, 110, 111, 127. *вы́цець* 62. *вы́цяты* 90, 92, 95—97, 103, 109, 131. *вытятэ* 98. *вы́цяў* 20, 53, 54, 56, 57, 59, 60, 64, 65, 67, 72, 99, 104, 105, 110, 127. *вы́цеў* 62. *вы́тяв* 90, 95, 103, 109, 131. *вы́теў* 134. *вы́тявса ного́ю* 91. *ву́цець* 140. *ву́цяць* 115, 116, 120. *ву́цяў* 115, 116, 120, 142. *вэ́тяв* 98. *вы́тнуць* 134. *вы́тнуты* 97. *вы́тнуў* 60. *тётэ* 98 *(міцно). тев* 98 *(міцно)*.

Адзінкавыя: *нагу́ пабі́ў* 4. *гняну́ць* 10 (як *гняне́ць па каро́ві) сціба́нуць, сцёбнуць* 29. *сікану́ць* 36. *сту́кнуць* 41. *сту́кнуў* 47. *здаць* 50 (па назе). *жыгну́ць* 81. *сада́нуў* 86. *зба́хтітэ* 98. *апціг пу́гай* 124. *лупану́ць* 129.

Адведзены: *вы́цегці, вы́цег* 113. *набіць* 8, 17, 19, 22, 26, 46, 49а, 50, 51, 61, 68, 69 (суч.), 70, 71, 75, 80, 106, 119, 128, 135, 136, 139. *набіці* 93. *набіті* 94. *набы́ты* 91, 96, 103. *набэ́тэ* 98. *набі́ў* 1, 20, 142. *пабіць* 24, 26, 57, 68. *абабі́ць* 2, 6, 8. *абабі́ў* 4. *пабіла* 25 а. *пабі́ў* 4, 14, 17, 70. *забі́ў* 106 *(но́гу)*. 135. *забы́в* 96 *(но́гу)*, 108. *збі́ў* 119. *рабёнка абабі́ў* 4. высеч 7. *сцёбнуць* 29. *задзяліць* 48. *здаць* 50 *(паназе́). зада́ць* 52, 77 *(яму́). лупіць, атпру́дзіць, налупі́ць, даць ба́ню, налупцава́ць* 75. *апсе́ч* 84. *натрыпа́ты, зорва́в* 103. *урэ́заць* 114.

## Карта № 182

# ДУЖАЦЦА, БАРУКАЦЦА

№ 2932 «Хлопцы борацца, барукаюцца, дужацца...»

Пры картаграфаванні фармальныя паказчыкі слова не ўлічваюцца, картаграфуецца корань слова.

*бо́рацца* 3, 29, 34, 38 *(борӑцца)* 45, 74, 100, 111, 112, 119, 120а, 126. *баро́цца* 1. *бо́рацця* 90. *бо́руцца* 5, 7, 8а, 15, 35, 62, 93, 102—104, 108—110, 113, 114, 132—134, 137. *бо́руцця* 95—96а. *бо́руця* 92, 97, 98, 131. *бо́рюцца* 12—14, 16, 17, 32, 44, 79, 84, 89, 106. *бо́руться* 91. *бо́рутця* 97. *бо́раюцца* 9, 30, 37, 53, 54, 60, 72, 73, 75, 76, 80—82, 115, 116, 118, 120—124, 127, 128, 135, 136, 138, 141. *бо́руюцца* 33, 36, 78. *бо́рiюцца* 41, 86. *борююцца* 42, 83, 85. *бо́реюцца* 117. *бо́рацца, бо́руцца* 6. *бо́рацца, бо́раюцца* 70, 125, 129, 140, 142. *бо́руцца, бо́раюцца* 77 (переважн.). *баро́цца, бо́рацца* 28. *баро́цца, бо́руцца* 4, 8, 46. *бо́рюцца, бо́ріцца* 87. *бо́рюцца, бо́ріюцца* 39. *бо́рыцца. бо́рыюцца* 40.

*ду́жацца* 10, 48, 54, 58, 59, 63, 111. *ду́жаюцца* 21, 23, 24, 27, 49, 52, 52а, 57, 60, 65, 67, 77, 94, 94а, 101, 105, *ду́жуцца* 26. *ду́жаяцца* 25. *ду́жацця* 92. *паду́жаемся* 2. *ду́жацца, ду́жаюцца* 11, 49а, 66, 68, 71, 107. *ду́жацца, ду́жаліся* 69.

*бару́каюцца* 31, 99. *барука́юцца* 50 (трад.), 54—56, 59, 61, 64. *барука́цца, барука́юцца* 51.

*до́ляцца* 20. *до́ляюцца* 19, 22. *до́лююцца* 18.

Адзінкавыя: *хо́даюцца, хо́даліся* 69 *(адзін другога схо́даў). брыжку́юць хло́пцы* 114. *сілеюцца* 134.

Апісальныя канструкцыі: *у барца́ хо́дзяць* 2. *барца́ хо́дзяць* 3. *у ду́шкі дра́ліся* 25а. *у запа́сы хо́дзяць* 47. *у ду́шкі пашлі* 52.

## Карта № 183

# *ЧВЭ́РЫЦЬ* (значэнне слова)

№ 2758 «Чвэрыць: гаварыць непрыстойнае...»

На карце паказана семантыка слова *чвэ́рыць*. Адным знакам абазначаны словы: *чвэ́рыць, чво́рыць, чва́рыць, чве́рыць, чвырыць.*

'гаварыць непатрэбшчыну, глупства': *чвэ́рыць* 18 (гаварыць абы-што), 19

*(гаварыць насмех)*, 20 (гаварыць тое, што не трэба), 49а *(чвэрыць нешта)*, 50 *(гаварыць пустоя)*, 51 *(пляцé нікудышнае)*, 53 *(гаварыць усякая)*, 54 (гаварыць непрыстойнае), 55 (гаварыць абы-што), 60 (жартаваць, гаварыць абы-што), 61 *(гаварыць пустоя)*. 62 *(гаварыць пустоя, няма чагó слухаць)*, 65 *(сказáў нешта такóя, што слухаць ня мóжаш)*, 99 *(гаварыць абы-штó, няма чагó слухаць)*, 100 (гаварыць абы-што), 104 *(абы-штó чвэрыць)*, 106 (гаварыць абы-што, выдумліваць), 107 (гаварыць абы-што), 112 (гаварыць лухту), 115 *(чвэрыш абы-штó)*, 133 (гаварыць абы-што). 134 (гаварыць непатрэбнае), 137 *(гаварыць несамастóйнае, немá чагó слухаць)*, 142 *(гаварыць што папáла)*. *чвэрыці* 101 *(чвэрыш ты, буцьшчо)*. *чвэрыты* 132 *(гаворыты абы-шó)*. *чвóрыць* 46 *(пазбірáюцца і чвóрáць, гавóраць усякая)*, 117 *(чвóрыць усякая, гавóрыць абы-штó)*, 120 *(гавóрыць усякая)*. *чвáрыць* 48 (гаварыць абы-што). 49 *(гавóрыць усякая)*, *чвéрыць* 74 *(гавóрыць абы-штó, не даé рабіць)*.

'вырабляць штукі, дурэць': *чвэрыць* 102 (дурэць, гарэзнічаць). *чвэрыты* 95 *(робыты всякы выделкі, шалысты вытворáть)*, 96а *(вытворяты абы-шо)*, 103 *(выробляты жярты)*, 108 (свавольнічаць), 109 *(нэмаладу шчо робыты)*. *чвэрытэ* 98 (вельмі дурэць, сваволіць). *чвэріть* 113 (вельмі жартаваць, дурэць). *чвóрыць* 114 *(чвóрыць камедзію)*.

'паводзіць сябе непрыстойна': *чвэрыты* 90 (рабіць кепскае, непрыстойнае), 91 (рабіць глупства), 92 (рабіць дрэннае), 96 *(шось робыты ныдóбрэ)*, 97 (рабіць што-н. дрэннае). *чвэрытэ* 98 (рабіць нешта дрэннае). *чвэрыці* 93 *(кéпское наробіці)*. *чвэріті* 94 *(шо нэ трэбо робіті)*.

Адзінкавыя: *чвэрыць* 73 (устар. *Глядзіць у вóчы, калі ядуць, напрáшваецца на яду, чвэра, кап далі яму*). *чвырыць* 75 *(чвырыць вачáмы, кап ухапіць што)*.

Адсутнасць слова: 1—17, 21—45, 47, 52, 52а, 56—59, 63, 64, 66—72, 76—89, 94а, 105, 110, 111, 116, 119, 121—130, 135, 136, 138—141.

## Карта № 184

## *ВЫДЗІРÁЦЦА* (значэнне слова)

№ 2759 «Выдзірацца: насмяхацца, дражніцца...»

На карце паказана семантыка слова выдзірацца.

'лаяцца': *выдзірáцца* 51 *(лáяцца, сільна адбрэхвацца)*, 100 *(лáяцца)*, 101 *(ох, і выдзірáецца яна! Чагó крычыш?)*, 102 (прыставаць, лаяцца), 106 *(ні выдзірáйся, ні лáйся!)*, 107 *(вонá спосóбна выдзірáцца, лáяцца)*, 110 *(выдзірáцца рóзнымі славáмі)*, 111 (лаяцца), 112 *(за што яна выдзірáецца?)*. *выдырáтыса* 108 *(мóцно крычáць)*.

'насміхацца': 53, 54, 104.

'фанабэрыцца': 19 (задавацца, фарсіць; *яна выдзірáецца, а няма з чагó*).

Адсутнасць слова: 1—18, 20—52а, 55—99, 103, 105, 109, 113—142.

## Карта № 185

## *ДЗЯЎКАЦЬ* (значэнне слова)

№ 2760 «Дзяўкаць: гаварыць абы-што...»

На карту нанесены словы *дзяўкаць, зяўкаць, цяўкаць* у значэнні 'гаварыць абы-што'. Як *дзяўкаць* картаграфуюцца *дзяўгаць, дзёўкаць, дзёвгаты*, як *жванькаць* картаграфуюцца *жвэнькаць, джвэньгаць*, як *цяўкаць* картаграфуецца *цёўкаць*.

*дзяўкаць* 19, 20, 23, 45—47, 49, 51, 53, 55, 56, 60, 63, 77, 99, 100, 104, 105, 107, 110—112, 114—117, 119, 121, 126, 127, 137, 138, 140. *дзяўкаты* 92. *дзяўкаті* 94. *дзявкаты* 94а, 95, 108, 132. *дзявкать* 113. *дзёўкаць* 122, 135. *дзяўгаць* 50, 52а, 54, 58. *дзяўгаць* 59. *дзяўгаці* 93. *дзявгаты* 96, 96а. *дзёвгаты* 97.

*зяўкаць* 4—6, 8, 8а, 10, 11, 28. *зяўкъць* 15.

*цяўкаць* 1, 14, 25, 66, 71, 80, 106, 117, 120, 120а, 123, 125, 128, 139. *цяўкыць* 36, 43, 78, 81, 83, 84. *цёўкаць* 74.

*жванькаць* 75. *жвэнькаць* 118. *джвэньгаць* 118.

Адзінкавыя: *дзябаць* 24 *(яна дзябаіць пустóя)*. *дзéйкаць* 30 (гаварыць абы-што). *джáўгаць* 70. *дзéньгаць* 71. *дзячыць* 84.

## Карта № 186

## *ВАЙЦЯЦЬ* (значэнне слова)

№ 2763 «Вайцяць: з крыўдаю сказаць, крыўдзіцца на каго-небудзь»

На карце паказана семантыка слова вайцяць. Як *вайцяць* картаграфуецца слова *ванцяць*.

'упікаць, папракаць, выказваць крыўду': *вайцяць* 2 *(ты на мяне вайцяла, выгавóрвала)*, 6 *(вайцяіць мне, ня любіць прáўды)*, 19 (выгаварваць, папракаць), 25 (выгаворваць крыўду, папракаць), 27 *(выгаварыў абіду сваю, звайцёў, не вайцяй, ты сама дáла чалавéку грóшы)*. 48 (крыўдзіцца), 49 (упікаць, выказваць крыўду), 50 (крыўдзіцца). 57 (выказваць сваю крыўду: *я яму звайцяла*), 80 (выказваць крыўду: *што ты вайцяеш, я нічóга ні знáю)*, 99 (выказваць крыўду: *я ёй вывайціла, хай слухае)*, 100 (выказваць крыўду), 104 (выказваць крыўду, з крыўдаю сказаць), 106 (упікаць, крыўдзіцца на каго-небудзь).

'лаяць каго-небудзь': *вайцяць* 20 *(вывайціла яго; я яго вывайцяю)*, 24 *(усякія слóвы тóлькі вайцяіць і вайцяіць)*, 52 *(звайцявáць* — збэсціць), 53 *(казáць на чалавéка нехарóшая)*.

'гаварыць недарэчнае': 28 *(вайцяіш абы-што)*, 61 (гаварыць лухту), 77 *(перастáнь вайцяць аднó і тóе ж, ерунду гавóрыш)*. *ванцяць* 29 *(абы-што ванцяць)*, 30 *(ванцяіць, гавóрыць абы-што)*, 31 (гаварыць абы-што, *ванцяіць*).

Адсутнасць слова: 1, 3—5, 7—18, 21—23, 25а, 26, 31—47, 49а, 51, 52а, 54—61, 63—68, 70—79, 81—98, 101—103, 105, 107—142.

## Карта № 187

## *РЭЙДЗІЦЬ, ЛÉЙДЗІЦЬ*

№ 2765 «Рэйдзіць, ляйдзіць, лейдзіць: плеткаваць, хлусіць, брахаць, трапаць языком...»

Картаграфуецца пашырэнне лексем.

Пры картаграфаванні не ўлічваліся фармальныя асаблівасці слова.

19 *рэйдаць (рэйдая — гавóра так ці не так)*. 20 *рэйдзіць* — гаварыць абы-што *(будуць рэйдзіць і рэйдзіць, як сабярýцца пляткáркі)*. 47 *рэйдаць — трапáць языкóм, брахáць (ні рэйдай быля чагó, ніхтó цібé слухаць ні бýдзя)*. 48 *рэйдаць (ні рэйдзі, бо праганю зáраз)*. 49 *рэйдзя — ніпрáўду кáжа*. 51 *рэйдзіш чорт ведае што, чапуху, рэйдзіць бýдзя*. 52 *рэйдаць (рэйдаеш і рэйдаеш, хóдзячы па вýліцы — языкóм мéлеш)*. 53 *рэйдзіць — брахáць, трапáць языкóм, лáйдзіць, лéйдзіць*. 54 *рэйдзіць, нарэйдзіць — пляткáрыць, хлусíць, брахáць, трапáць языкóм*. 62 *рэндзіць*. 93 *рэйдзіці, шалóціці — абы-што гаварыць*. 96 *рэйдаты — хлусіць, трапáць языкóм; рэйда* — аддзеяслоўны назоўнік. 97 *рэйдзіць, лéйдзіць*. 98 *рэйдэтэ* — гаварыць абы-што, няпраўду. 100 *рэйдзіць* — абы-што гаварыць, 139 *рэйдзіць — шальнóе гаварыць, трапáць языкóм*.

Адсутнасць слова: 1—18, 21—46, 49а, 50, 53, 55—61, 63—92, 94—95, 96а, 99, 101—138, 140—142.

## Карта № 188

## *ДЗЕ́ЙКАЦЬ* (значэнне слова)

№ 2766 «Дзейкаць: перадаваць няпэўныя навіны...»

На карце паказана значэнне слова *дзейкаць* і яго геаграфія.

У асноўным *дзе́йкаць* мае значэнне 'перадаваць няпэўныя звесткі, гаварыць тое, што можа і не пацвердзіцца'. У двух пунктах адзначана, што яно сінанімічна слову *прадка́зваць* (79, 81). Гаворка аб будучым мае таксама значэнне няпэўнасці.

Як *дзе́йкаць* картаграфуецца *пусціць дзе́йкі.*

15 *дзе́йкаць — перадава́ць няпэ́ўную навіну́.* 29 *дзе́йкыць.* 31 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны. 33 *дзе́йкаць* — гаварыць няпэўнае. 35 *дзе́йкыць.* 36 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны. 37 *здзе́йкалі* — перадалі няпэўныя навіны. 41 *дзе́йкыць (дзе́йкалі, што ён ужо́ быў жына́т).* 42 *дзе́йкыць, пусцілі дзе́йкі.* 44 *дзе́йкаць* — гаварыць няпэўна, разважаць. 54, 59 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны. 60 *пуска́ць дзе́йку, пуска́ць дзей-барадзе́й* — перадаваць няпэўныя навіны. 62 *дзе́йкаць.* 63 *дзе́йкаць* — гаварыць абы-што. 65 *дзе́йкаць* — пусціць пагалоску. 66 *дзе́йкаюць, што яго́ няма́.* 69 *дзе́йкаць (што-та дзе́йкаюць; ні чула ты новасць? А людзі дзе́йкаюць).* 70 *пусцілі людзі такія дзе́йкі, але пра́ўда ці не?.* 72 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны. 74 *дзе́йкаць (толькі ж ты дзейкі тыя перадавала, с цябе ўсе дзейкі ідуць).* 77 *дзе́йкаць (а ня дзе́йкай ты ўжо).* 79 *дзейкаць — прадка́зваць, перадава́ць што-н. непра́вільна.* 80 *дзе́йкаць — перадава́ць чу́ткі, плёткі.* 81 *дзе́йкаць* — прадказваць, гаварыць пра будучае, перадаваць няпэўныя навіны *(быва́ла дзе́йкалі пра вайну).* 82 *дзе́йкаць.* 83 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны. 84 *дзе́йкыць.* 95 *де́йкаты* — перадаваць няпэўныя навіны. 96 *дэ́йкаты* — перадаваць няпэўныя навіны. 97 *дэ́йкаты* — перадаваць няпэўныя навіны. 98 *дэ́йкатэ* — перадаваць няпэўныя навіны. 103 *дэ́йкаты — каза́ты ны вэ́льмы пэ́вно, чы то пра́вда, чы то не́.* 107 *дзе́йкаць.* 108 *дэ́йкаты — говоры́ты, шо тру́дно розобра́ты.* 109 *дэ́йкае — гэ́то гомо́ныть, мурмы́чэ.* 118 *дзе́йкаць.* 121 *дзе́йкаць* — гаварыць няпэўнае *(дзе́йкае ні зіму́, ні ле́та).* 123 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны. 124, 127, 128 *дзе́йкаць.* 131 *дэ́йкаты* — перадаваць няпэўныя навіны. 132 *де́йкаты — ныпра́вду говоры́ты, ты́хэнько, та́йно.* 137 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны *(так ля магазіна дзе́йкалі).* 139 *дзе́йкаць — трапа́ць языко́м.* 142 *дзе́йкаць* — перадаваць няпэўныя навіны.

## Карта № 189

## *МАЙНА́ЧЫЦЬ* (значэнне слова)

№ 2768 «Майначыць: трызніць, гаварыць без памяці...»

На карце паказана пашырэнне лексемы *майначыць* і яе значэнне. Форма слова пры картаграфаванні не ўлічвалася.

18 *майна́чыць — несправядліва гаво́раць.* 19 *майна́чыць — абману́ць, падве́сці.* 20 *майна́чыць, маніць — непрыто́мны гаво́рыць, у мані гаво́рыць.* 29 *майна́чыць* — абмануць, гаварыць няпраўду. 53 *майна́чыць* — гаварыць абы-што. 54 *майня́чыць, намайня́чыць* — гаварыць, рабіць нядобрае, *майня́чыць* — трызніць. 57 *майна́чыць* — трызніць, *майна́цыя* — брэд хворага, галюцынацыя *(майна́чыў — не́шта здава́лася яму́).* 59 *майна́чыць* — гаварыць абы-што, тлуміць галаву. 70 *майна́чыць:* а) гаварыць глупства, б) трызніць. 62 *майна́чыць — гавары́ць, быць без па́мяці.* 100 *змайна́чыць* — украсці, прапіць. 103 *майна́чыты — як паскыда́іш добро́, ны эконо́мыш (хозяйство розмайна́чыв).* 104 *майна́чыць* — трызніць *(хво́ры майна́чыць), майна́чыць — гавары́ць без ро́зуму, абы-што.*

## Карта № 190

## ЧУТКА

№ 2776 «Я. н. чутка: чутка, пагалоска, погаласка...» Мн. лік: чуткі, погаласкі, галасы, дзейкі...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы чуткі і акцэнталагічныя варыянты слова *пагало́ска: по́галаска, пагало́ска.*

У н. пп. 66, 70, 79, 83, 107 знак *(дзе́йка)* пастаўлены на аснове адказаў на пытанне № 2766 «Інструкцыі...» Адным знакам картаграфуюцца формы адз. і мн. ліку. Як *слух* картаграфуецца назва *слых,* як *по́галас– пагало́с.* Адводзяцца ад картаграфавання словы: *но́васць, сплётні, вы́думка, няпра́ўда, звóды, брэ́хні,* якія не маюць адносін да тэмы данай карты. Адводзіцца ад картаграфавання у н. п. 42 слова *пыгало́скі* ў сувязі з заўвагай інфарматара: *дзе́йкі пашлі пы дзярэ́ўні, пыгало́скі — пы лясу́.*

*чу́тка* 7, 9, 13, 14, 28, 29, 31, 34, 35, 37—39, 43, 44, 57, 59, 61—63, 65—67, 73, 75, 77—82, 87, 88, 91, 92, 94 (рэд.), 94а—96а, 98, 102—104, 107—109, 111—114, 117, 118, 124—129, 132—136, 139—142. *чу́ткі* 3, 27, 69, 83, 84, 110.

*по́галаска* 2, 18, 19, 21, 23, 25, 25а, 45—50, 52—57, 59, 60, 62, 65, 67, 71, 72, 99, 100, 105, 115, *по́голоска* 90—94, 94а (рэдк.), 95 (рэдк.), 96, 102, 103, 106, 108, 117, 131. *по́гылыска* 8а, 16. *по́гулуска* 98. *по́галаскі* 24, 69, 116. *по́голоскы* 97.

*пагало́ска* 6, 8, 10, 11, 17, 26, 29, 63, 70, 76, 111, 118, 121, 122, 124, 126—129, 141. *погoло́ска* 114, 117, 134, 135, 137, 138. *пыгало́ска* 5, 32, 37, 41, 43, 44, 78, 81, 84, 86, 88. *пыгало́скі* 80, 84.

*по́галас* 5. *пагало́с* 82.

*га́ласкі* 30.

*дзе́йка* 15, 37, 41, 59, 60, 62, 63, 65, 66, 75, 77, 81 *(дзе́йкі, дзе́йкаць),* 82, 104, 107, 118, 121, 124, 127, 129, 139, 142. *дэ́йка* 95, 96, 98, 103, 108, 109, 132. *дзе́йкі* 29, 31, 33, 36, 42, 44, 54, 68—72, 74, 79, 80, 83, 84, 123.

*пагаво́рка* 20, 64, 75, 120, 128. *поговó́рка* 134, 140. *пыгаво́рка* 89. *пагаво́ркі* 27.

*погово́р* 132, 140.

*слух* 41, 76. *слы́хі* 51, 74, 89.

*слы́шка* 12.

Адзінкавыя: 1 *чува́ць (чува́ць, што бу́дзіць вясе́лля).* 4 *шэ́мрыць (людзі шэ́мруць).* 20 *гаво́рацъ (гаво́рацъ людзі).* 24 *гук (гук пашо́ў, што вясе́лля бу́дзіць).* 86 *каза́лі (каза́лі людзі).* 96а *мо́ва пашла́.* 120а *гаво́рка (гаво́рка пашла́ па сялу́).* 130 *абгу́к.*

Адведзены: 9 *но́васць.* 40 *сплéтні.* 49а *звóды, брэ́хні.* 92 *сплётні.* 93 *няпра́ўда.* 101 *вы́думка.*

## Карта № 191

## ЗАПЫТАЦЬ

№ 2777 «У каго-н. запытаць, спытаць, спрасіць...»

На карце супрацьпастаўляюцца дзеясловы са значэннем 'звярнуцца да каго-н. з пытаннем'.

*папыта́ць* 2, 3, 18, 19, 21, 22, 25, 25а, 27, 28, 30, 38, 47, 49а, 50, 52, 53, 55, 56, 58—69, 72—74, 76, 77, 80—82, 100, 110, 112, 115, 118—120, 122, 125—128, 130, 141, 142. *папыта́ці* 93. *попыта́ць* 101, 106, 113. *пупыта́ць* 29, 84. *пыпыта́ць* 107. *попыта́ці* 102. *попыта́ты* 94а, 108, 109. *папата́ць* 33. *папута́ць* 116, 120а, 139. *попута́ць* 114, 117, 136, 140. *попута́ть* 134, 135.

*запыта́ць* 4, 5, 8, 10, 11, 20, 23, 24, 26, 31, 37, 46, 48, 49, 52а, 54, 57, 62, 67, 71, 75, 81, 84, 105, 121, 124, 129, 138. *зъпъта́ць* 8а. *запата́ць* 6. *запута́ть* 134.

*спыта́ць* 35, 43, 45, 54, 65, 67, 80, 83, 99, 104, 111, 113, 124, 126, 137. *спыта́ті* 94, 95—97. *спыта́ты* 90, 92, 94а, 103, 108, 109, 131, 132. *спата́ць* 39. *спіта́ть* 133. спітатэ 98.

*спрасіць* 1, 5, 7, 8а, 9, 13—17, 28, 29, 31, 34—36, 39, 40—44, 73, 78, 79, 82—89, 123, 127—130, 141, 142 (нов.).

### Карта № 192

## ПАРАДА

№ 2778 «Даць параду, савет...»

На аснове адказаў на дадзенае пытанне складзена карта, на якой паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы парады.

*пара́да* 2—6, 8а, 10, 11, 18—23, 27, 30, 45—49а, 51, 52а, 54, 56—58, 61—67, 70, 72, 77, 99, 100, 104, 105, 111, 122, 124, 129, 141. *пора́да* 90, 91, 93—97, 101—103, 106—109, 113, 114, 117, 132, 134, 136—138. *пура́да* 92.

*ра́да* 16 (рэд.), 20, 24—25а, 29, 33, 35, 52, 53—55, 73, 75, 80, 81, 82, 84, 85, 127, 134.

*саве́т* 1, 5, 7—9, 12—17, 25а, 26, 28, 31, 32, 33—44, 63 (нов.), 67, 69, 71—76, 78—89, 110, 112, 115, 118—120а, 123, 125—128, 130, 140, 141. *сове́т* 114, 117, 131, 134—137.

### Карта № 193

## ПАРАІЦЬ

№ 2778 «Параіць, пасаветаваць, парадзіць...»

На карце супрацьпастаўляюцца дзеясловы са значэннем 'параіць'. Як *пара́дзіць* картаграфуецца слова *ра́дзіць,* як *пасаве́таваць* картаграфуецца слова *саве́таваць*

*пара́іць* 4, 8а, 10, 11, 23, 26, 27, 29, 50, 52а—56, 59—69, 72, 75, 76, 105, 111, 115, 118, 121, 124, 126, 127, 129, 130, 139, 142. *пыра́іць* 30, 33, 35, 40, 41, 81, 82, 85, 88, 89, 104. *пора́іць* 114. *пора́іть* 134. *пора́іты* 94а (рэдк.), 95 (рэдк.) 103, 108, 132. *пура́ятэ* 98.

*пара́дзіць* 2, 3, 5, 6, 8 (трад.), 8а, 23—25, 27—29, 45—49а, 51, 52, 53, 54, 57, 58, 60, 67, 70, 73, 75, 77, 99, 118, 122, 127, 135, *пора́дзіць* 101, 102, 106, 113, 137. *пыра́дзіць* 16 (рэдк.), 35, 80—82, 84, 85. *пора́діть* 134. *пора́діті* 94. *пора́дыты* 91, 93, 103, 107—109, 131, 132. *пура́дыты* 92, 94а—96а. *ра́дзіць* 3.

*пасаве́таваць* 7, 8, 9, 72, 74—76, 110, 112, 115, 116, 118, 120, 120а, 126—128, 135 (рэдк., нов.), 142. *пасуве́таваць* 119. *посове́товаць* 114, 117. *посове́товать* 134. *посове́товати* 133. *пасаве́тываць* 12, 14, 15—17, 31, 32, 34, 36—44, 73, 80—82, 85—87. *пасаве́туваць* 71, 129, 130. *посове́туваць* 137, 140. *пысаве́туваць* 78, 79, 83, 84, 88, 89. *саве́таваць* 1.

### Карта № 194

## АБЯЦАЦЬ

№ 2780 «Што-небудзь абяцаць, абяшчаць, дакляраваць...»

На карце супрацьпастаўляюцца дзеясловы са значэннем 'абяцаць'.

*абяца́ць* 19, 26, 27, 31, 45, 49—51, 52а—57, 59, 67—69, 112, 115, 124, 139 (цяпер), 142. *абіца́ць* 37, 74, 75. *обеца́ть* 134. *обыца́ты* 94а (рэдк.). *обыця́ты* 90—92, 95, 96.

*абяшча́ць* 67, 70, 71, 93, 112, 116, 118—122, 125—130, 135—142. *абешча́ць* 5, 9, 120. *обешча́ць* 113, 114, 117. *абішча́ць* 1, 11—17, 34—36, 38—44, 73, 75—81, 83—89, 123. *обешча́ть* 133, 134. *обішча́ты* 94а. *обышча́ты* 91, 92 (нов.), 131, 132, *обэшча́ты* 109. *убішча́тэ* 98. *обышчёты* 97. *обышча́ты* 90, 96а.

*даклярава́ць* 3, 8, 18—25а, 26 (трад.), 28, 45—56, 58, 60—65, 72, 93, 99, 100, 104, 105, 110, 111. *даклірава́ць* 2, 4, 6. *дыклірава́ць* 8а, 29, 30, 33. *доклярова́ць* 102, 113. *дакляртова́ть* 106. *доклярова́ті* 94. *доклярова́ты* 94а (рэдк.)—96 (рэдк.), 103, 132. *дэклярова́ты* 108, 109 (трад.).

*маніцца* 7 *(я ей манілася даць квакту́ху),* 10 *(манілася прыехаць і не прыехала).*

*суліць* 32, 35, 129.

### Карта № 195

## КЛІКАЦЬ

№ 2784 «Як кажуць: зваць, клікаць, гукаць, валаць...»

Картаграфуюцца дзеясловы са значэннем 'голасам запрашаць падысці з блізкай адлегласці'. У н. пп. 3, 52, 100 знак *(вала́ць)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (1, 1979). Адводзіцца ад картаграфавання слова *зваць* у сувязі з заўвагай інфарматара: н. п. 94а *зва́ты на вэсілле.*

*клікаць* 2, 5, 6, 8, 8а, 10—12, 15, 19—23, 25—27, 29, 31, 35, 47—63, 65, 67, 70, 73, 99, 100, 102, 104, 106, 107, 111. *клікыць* 13. *клікать* 134. *клікаці* 93. *клікаті* 94. *клыкаты* 92, 94а—97, 109, 130, 131. *клыкатэ* 98. *клекаты* 90.

*зваць* 1—5, 7, 8а, 9, 12—19, 21, 24, 25а, 28, 29, 31, 32, 34—36, 40—44, 64, 67—70, 75, 76, 78—89, 112—114, 116—119, 120а—122, 124, 125, 127—130, 135, 136, 139, 141. *звать* 134. *зва́ці* 133. *зва́ты* 90 (рэдк., нов.), 132.

*гука́ць* 14, 16, 30, 32, 33, 35—44, 53—55, 57, 66, 67, 69, 71—81, 101, 102, 105, 110, 112, 114, 115, 117—130, 136—139, 141, 142. *гука́ть* 134. *гука́ці* 133. *гука́ты* 108, 109.

*вала́ць* 3, 25а, 52, 52а, 54, 57, 100.

### Карта № 196

## КЛІЧА

АЛА 1432 'зовет кого-нибудь'

На карце паказаны лексічныя адрозненні ў назве адзначанага паняцця. Як *заве́* картаграфуецца *заве́ць* і *зо́віць.*

*кліча* 10А, 11А, 14А, 16А, 26А, 27А, 29А, 31А, 44А, 49А, 50А, 67А, 50, 61. *клічэ* 45А, 47А, 56А, 57А, 115. *клычэ* 48А, 64А. *клечэ* 43А.

*заве́* 16А, 19А, 28А, 30А, 32А—35А, 38А—40А, 46А, 53А, 55А—63А, 65А—67А, 70, 115. *зове́* 45А, 51А, 52А, 54А. *заве́ць* 2А—7А, 9А, 12А, 13А, 15А, 17А, 18А, 20А, 21А, 23А—25А, 36А, 41А, 42А. *зо́віць* 1А. *завёць* 22А.

*зве* 43А, 45А.

*гука́е* 57А, 58А, 61А. *гука́я* 33А, 35А—37А, 67А. *гука́іць* 42А (гучна кліча).

### Карта № 197

## *ГУКА́ЦЬ* (значэнне слова)

№ 2784 «Як кажуць: зваць, клікаць, гукаць, валаць...»

На карце паказана семантыка слова *гука́ць.*

'голасам запрашаць падысці з блізкай адлегласці': 6, 14, 16, 30, 32, 33, 36—44, 54, 55, 57, 66, 67, 69, 71—81, 83—88, 101 *(гука́ці),* 102, 103 *(гука́ты),* 105, 106, 108, 109, *(гука́ты),* 110, 112, 114, 115, 117—130, 133 *(гука́ці),* 134 *(гука́ть),* 136—142.

'голасам запрашаць падысці з далёкай адлегласці, крычаць': 3 *(у лéсі гукáць)*, 18 *(калі далёка — укáць)*, 22 *(гукáць — як дáлей, у лéсе гукáць)*, 23 *(гукáць — мóцна крычáць)*, 34 *(гукáюць у лéсе)*, 47 *(гукáла мóцна, ніхтó не адгукнýўса)*, 49, 50 *(гукáць далéко)*, 52а *(гукáць далёка)*, 53 (моцна крычаць), 55 (гукаць далёка), 56 *(у лéсі гукáюць)*, 64 *(гукáць мóжна ў лéсі)*, 95 *(гукáты — крычáчы клыкаты на. растоя́нії)*, 98 *(гукáтэ — як далёка)*, 103 *(як далёка — гукáты)*, 113 *(гукáць* — калі далёка), 132 *(гукáты* — на значнай адлегласці), 135 *(гукáць* — як далёка), 140 *(гукáць — калі знахóдзіцца далёко)*.
'размаўляць, гаманіць': 2 *(сядзíць і гукáіць самá сабé пад нос)*, 10 *(гукáць* — размаўляць), 11 *(гукáць* — гаварыць), 24 (размаўляць), 28 (гаварыць).
Адзінкавыя: 73 *(гукáць* — зваць у госці), 94а *(звáты на вэсілле)*.

## Карта № 198

# РЭХА

№ 2785 «Я. н. рэха: эха, рэха, погаласкі, гула...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў рэха. Словы *адгалóсак, адгалóска* (адз. лік.) картаграфуюцца як *адгалóскі* (мн. лік), слова *вэх* картаграфуецца як *вэ́ха*, слова *вóгаласкі* — як *вóдгаласкі*, слова *лёхат* — як *ля́хат*, слова *вэ́дур* — як *вэ́дра*.
*рэ́ха* 1, 7, 10, 11, 22, 25а—29, 31, 35, 37, 48, 52, 57, 58, 63, 67—69, 71, 72, 77, 81, 85, 104, 120, 130, 137. *рэ́хо* 46, 47, 55, 61, 62, 102, 111, 136.
*вэ́ха* 132. *вэх* 108 (вэх ідэ́).
э́ха 9, 14, 18—20, 40, 45, 50, 51, 52а, 59, 80, 88, 104, 116, 141, 142. *э́хо* 91—93, 96, 97, 105, 110, 139, 140.
*я́ха* 60, 64—66. *я́хо* 99.
*ля́хат* 53, 54. *лёхат* 56.
*адгалóскі* 2—5, 8а, 16, 17, 25, 33—36, 38—40, 43, 44, 73, 74, 79, 80, 84, 118, 129. *ыдгалóскі* 86, 87, 89. *адгалóсак* 70, 125, 126. *адгалóсык* 32. *адгалóска* 124.
*пагалóскі* 75, 77, 128, 141. *пыгалóскі* 41, 42, 78, 83, 85, 89. *поголóскі* 112.
*пóгаласкі* 76, 81, 118, 119, 127, 140.
*пагалóс* 123. *пыгалóс* 82.
*вóдгаласкі* 24. *вóгаласкі* 21.
*гóлас* 94, 115, 116, 120а *(гóлас па лéсе ідзé, разлягáецца)*, 122, 128, 137 *(от гóлас ідзé, галасы́ ідýць ў лéсі)*, 140 *(гóлас раздаéцца, як гукáе ў лéсе)*, 142 *гó-лос* 101, 106, 109, 112—114, 117, 133.
Адзінкавыя назвы ад таго ж кораня: *адгалóсця* 12. *гáласка* 30. *галóскі* 15.
*гук* 23, 49, 53, 90, 94, 94а, 96, 96а, 103, 104, 107.
*згук* 62, 131, 132.
*гулы́* 7, 8, 13.
луна́ 134, 135, 138.
*вэ́дра* 95. *вэ́дро* 131. *вэ́дур* 98.
Адзінкавыя: *атзыўкі* 6. *атклíчкі* 8.

## Карта № 199

# МОЎЧКІ (СЯДЗЕЦЬ)

№ 2786 «Сядзець моўчкі, цішком, нішком...»
Пры картаграфаванні не ўлічаны словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты слоў — картаграфуюцца карані слоў.
У 96 і 129 пп. ёсць заўвагі аб ўжыванні слоў: *нышкóм, ты́хонько, тышкóм* (рэдка); *мóўчыкі, цішкóм* (рэдка). У 9п. знакі пастаўлены на аснове наступнага запісу: *сядзéць цішкóм, але рабіць маўчкóм*.

*маўчкóм* 3, 7—9, 11—13, 18, 30, 35, 39, 43, 52, 54, 78, 83, 112, 127, 130. *моўчкóм* 102. *мовчкóм* 101, 103. *маўчакóм* 25, 41, 47, 57, 75. *мóўчъкъм* 15. *мóўчкам* 62, 110. *мóўчкым* 29. *мóўчакам* 77. *мóўчыкам* 60, 76. *мóўчакі* 69, 120а, 121. *мóўчыкі* 119, 124, 129, 138. *маўчакá* 36, 73, 81, 82, 129. *муўчыкá* 84. *мóўчака* 118, 128. *мóўча* 33, 35, 42, 86, 87, 89. *маўчá* 4. *мóўчынька* 80. *мóвачкам* 6. *мóўчкі* 1, 2, 10, 17, 20, 37, 51, 53, 54, 69—71, 78, 81, 82, 84, 85, 88, 111, 112, 117, 120, 122, 124, 125, 127 *(мóўчкі)* 133—135, 137, 139—142. *мóвчкы* 108, 132. *мовчкóм* 92. *мóўчачкі* 116.
*цішкóм* 3, 5, 9, 12, 14, 16, 19—24, 25а—29, 31—35, 37, 44—46, 48, 53—55, 57, 62, 63, 65, 68, 70, 73, 75, 79, 81, 82, 84, 101, 104, 111, 118, 119, 123, 126, 129, 139. *тишкóм* 94. *тышкóм* 91, 96, 103, 108, 109, 132. *тэ́шком* 98. *ціха* 8а, 10, 11, 27, 52а, 58, 59, 67, 68, 80, 85, 88, 104, 119, 125, 127, 128, 130. *цíхо* 56, 106. *ты́хо* 92, 96а, 109, 131. *цíхóм* 61. *цішкá* 50. *цíхамá* 53. *сцíхамá* 53. *цíханька* 2, 49, 64, 74, *цíхенька* 117, 118, 122, 142. *цíхінька* 58. *цíхынька* 43. *цíханько* 56. *ты́хынько* 96. *ты́хэнько* 97. *пацíхай* 99.
*нішкóм* 72, 93, 107. *нíшкам* 53, 67, 105, 110, 114, 115. *нíшком* 113, 134. *ны́ш-ком* 90, 95, 96, 97, 103, 108, 109, 132. *нэ́шком* 98. *ны́шчком* 131. *нíшчачкам* 66, 112. *нíшчэчкам* 114.
*безмóўные* 94.

## Карта № 200

# РАЗУМЕЦЬ

№ 2795 «Як гавораць: кеміць, цяміць, разумець, панімаць, кмеціць...» АЛА 1323 'понимает' понимает — razume — rozumie.
Сярод слоў, якія пералічваюцца ў пытанні ЛАБНГ, відаць, можна вылучыць дзве групы, якія адрозніваюцца сваёй семантыкай. Вылучаюцца лексемы са значэннем 'спасцігаць розумам, асэнсоўваць' і 'разбірацца', 'разумець сэнс падзей, гаворкі'. Да першай групы адносяцца словы *разумéць, панімáць*, да другой — *кéміць, ця́міць, кмéціць, саабражáць, кумéкаць*.
Тэмай дадзенай карты з'яўляецца супрацьпастаўленне лексем са значэннем 'спасцігаць розумам сэнс, змест, асэнсоўваць'. У радзе пунктаў збіральнікамі зроблены заўвагі аб значэнні слоў, а таксама аб ужыванні іх: 16 *пынімáць, пéтрíць* (пра дзіця). 44 *ця́міць* — разумець здатна, *пынімáць* — разумець наогул. 80 *па-нíмáць, разумéць* (радзей). 95 *кмíтыть, понімáе* (нов.), *розумíе* (трад.). 96 *понімáе, розумíе* (рэдка). 102 *знаць, понімáць, цíковáці (разумéць* — пра дзіця, дарослага). 103 *понімáе* (нов.), *розумíе, кмэтыть (догáджуецца)*. 108 *понімáе, тя́мыть, розумíе* (рэдк.). 139 *ця́міць, кмéціць, разумéць* (цяпер).
Марфалагічныя асаблівасці слоў пры картаграфаванні не ўлічваюцца.
Ад картаграфавання адведзены лексемы *знáе, вміе, увéдаў*, так як мы лічым, што яны маюць іншыя значэнні: 'ведаць што-н., умець, пазнаць што-н.': *увéдаў* (105), *вміе, знáе* (100, 108), *знáе* (45А, 47А, 57А), *знáя* (26А, 29А, 44А, 67А), *вéдае* (45А, 57А), *умéіць* (23А).
Паколькі ў пытанні няма размежавання па адценнях значэнняў, пералічаных ніжэй слоў, няма гарантыі, што лексемы, якія нанесены на карты № 200 і 201, не перакрываюць адна адну. Часткова гэтым можна тлумачыць і запаўненне картаў. Па гэтай жа прычыне не ставіўся знак адсутнасці слова на картах.
*панімáць* 1, 4, 8, 10, 17, 19, 21, 25, 26—29, 31, 37, 47, 50, 52—55, 59—61, 63, 66, 67, 73—76, 80, 82, 86, 88, 112, 115—120, 122, 123, 125—130, 135, 140, 142. *пынімáць* 16, 35, 40, 43, 44, 78, 79, 83, 84, 87, 89. *пънімáць* 8а, 15, 39, 41, 42, 85. *понімáць* 102, 107, 138. *панімáці* 93, 134. *понімáті* 94. *понымáць* 133. *пунімáты* 91, 92, 96а. *панімáя* 20, 25а, 58, 69. *панімáе* 111, 113, 120а. *панімáць* 36. *пъні-мáіць* 34. *понімáе* 90, 95—97, 101, 103, 106, 108, 109, 132. *пунімáтэ* 98.

